№ 12 (154). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 30.VI.1939.

ШЛЯХ МОЛАДЗІ
ŚLACH MOŁADZI
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 12 (154). Вільня, 30 Чэрвеня 1939 г. Год XI



# А ДЗЕ-Ж НАШ ЖЫЦЬЦЁВЫ ПРАСТОР?...

Міма няспрыяючых агульных абставінаў некаторыя польскія кругі не забываюць аб г. зв. усходніх землях. Ня толькі нават не забываюць, але яшчэ й паглыбляюць сваю ўвагу, шукаючы на ўсходзе жыцьцёвага прастору.

Нядаўна адбыўся тыдзень «Зем Всходніх», у рамках якога былі выступленьні розных выдатных польскіх дзеячоў і палітыкаў. Па радыё надавалі прамову міністра Косьцялкоўскага (бышага беластоцкага ваяводы — спэца ад усходніх зямель), а на публічнай акадэміі у Вялікім Тэатры ў Варшаве, 10.VI.39 г., выступаў сэнатар Прыстар. На акадэміі былі прысутныя: мін. Косьцялкоўскі, віцэміністр вайсковых спраў ген. Глухоўскі й шмат іншых высокіх дастойнікаў. З гэтага відаць, якую вялікую вагу прывязваюць польскія кругі ўсходнім землям. На жаль, з гэтага павароту да ўсходу ня відаць палепшаньня быту нашага краю, бо паміма вялікага шуму й разгалосу — гаспадарчае падняцьце краю ідзе вельмі й вельмі марудна, а толькі больш прыбывае розных гандляроў, рамесьнікаў, каляністаў з цэнтру Рэчыпаспалітай, што, здаецца, найглыбей ляжыць у мэце гэнага павароту на ўсход. Прыглецьдзімся тады бліжэй гэтай мэце.

Вось-жа ў 1936 г. 20 і 21 верасьня адбыўся ў Варшаве навуковы зьезд пад пратэктаратам П. Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай і пад кіраўніцтвам міністра вайсковых спраў ген. Т. Каспшыцкага, прысьвячаны ўсходнім землям. На гэтым зьездзе шмат аб чым гаварылася й вельмі многа ўвагі прысьвячана было Палесьсю. Між іншым аб зямельнай справе на Палесьсі гаварыў інспэктар Міністэрства Земляробства Рыхлоўскі. Ен казаў: «Запас зямлі на Палесьсі, ня гледзячы на агульныя вонкавыя пагляды, ня ёсьць вялікі». А далей: «Бяром пад увагу колькасьць грунтаў земляробскіх, іх стан і плады, а так-жа тое, што г. зв. рэдкае насяленьне Палесься ёсьць гусьцейшае, чымся напр. у паветах Мінска-Мазавецкім, або Опачынскім (паветы цэнтруРэчыпаспалітай—*рэд.*), а да таго цяжкія прыродныя варункі для гаспадараваньня". Балота на Палесьсі ёсьць, бязумоўна, шмат, але-ж балота хлеба не дае, ды да таго ня ўсюды прыгоднае для выкарыстаньня. Асушыць — зрабіць з яго прыгодны для земляробства абшар можна, але да таго ня йдзе. А чаму, гэта выясьнілася на восьмым зьезьдзе польскіх вучыцялёў географіі ў Кракаве 28 і 29 мая сёлета, дзе прафэсар Пазнанскага Унівэрсытэту Станіслаў Паўлоўскі казаў: «Утрыманьне балотаў на Палесьсі ёсьць люксусам выкліканым стратэгічнымі (ваеннымі) ўзглядамі».

На фоне гэтых даных дзіўнымі й супярэчнымі выдаюцца вывады й пэрспэктывы, якія знайшлі адбіцьцё ў радыё й у „Gazecie Polskiej“ (№160, 11.VI.39), якая стаіць блізка ўраду,—у перадавым артыкуле «Земе Всходне», падпісаным ініцыяламі З. С., што трэба чытаць — Зьдзіслав Сталь. У вышменаваным артыкуле расцягненым шрыфтам п. З. С. піша: «Існуе агульна-гаспадарственны плян накіраваны да поўнага заспакаеньня й арганічнага зьвязаньня ўсіх складовых частак Рэчыпаспалітай»... «Трэба ўсходнія землі насяліць вартасным дзейным маладым польскім элемэнтам з іншых пералюдненых мясцовасьцяў». «Усходнія ваяводзтвы, гэта ў вялікай меры абшары слаба заселены, яны чакаюць лічбовага ўзмацненьня жыхарамі з ваяводзтваў пералюдненых». Такімі-ж уважае З.С. ваяводзт. цэнтральныя. На другі дзень, г. зн. 12.VI, Польскае Радыё з Варшавы падало некаторыя адрыўкі з артыкулу З. Сталя й заклікала рэалізаваць як найхутчэй высунуты плян.

Дзіўным усё гэта выглядае ў параўнаньні з прамовай віцэпрэм'ера Квяткоўскага, які 3.VI, маючы на ўвазе Нямеччыну й яе пляны, казаў, што «ніхто на сьвеце ня можа згадзіцца з моднай цяпер дактрынай „жыцьцёвага прастору“, што адны народы яго ўсьцяж маюць пашыраць, а іншыя быць для іх нажывай». Але не на гэтым думаем затрымлівацца, а хочам зьвярнуць увагу на абсурдальнасьць і нерэальнасьць плянаў З. Сталя і інш. Вышэй прытачвалі мы словы спэцыяліста інспэктара земляробства, каторы кажа, што гушчыня насельніцтва на Палесьсі ёсьць большай, чымся ў шмат якіх паветах цэнтру Рэчыпаспалітай. Іншыя ўсходнія паветы нашага краю, нашы ўсе вёскі, таксама пералюднены. Дык дзе-ж тады рэдактар і пасол Сталь бачыць «слаба заселеныя ўсходнія абшары»? Дзе-ж будзе ён садзіць каляністаў? Ды ўрэшце, дзе-ж жыцьцёвы прастор мясцовых людзей нашага краю? Куды маюць падзецца нашы сяляне й з чаго маюць яны жыць? Аб гэтым п. Сталь ня думае, хоць Канстытуцыя ў Польшчы дае роўныя правы й Палякам і Беларусам.

П. З.

*З вандровак па старасьвеччыне*

# Троцкія замкі

Калі ў XIII стагодзьдзі маладому й нямкрэпшаму яшчэ літоўска беларускаму гаспадарству пачала пагражаць небясьпека з боку нямецкіх рыцарскіх ордэнаў, узьнікла ў беларускай архітэктуры новае зьявішча — каменная замкавая архітэктура. Яе задача — стварэньне асяродкаў, якія былі-б моцнаю запыняю на дарозе ворага, азброенага магутнаю, заходня-эўрапэйскаю ваеннаю тэхнікай. Архітэктура гэта апёрлася на ўзорах, якія прыйшлі з заходняй Эўропы праз тыя ж рыцарскія ордэны крыжакоў і мечаносцаў і ў сувязі з гэтым пайшла шляхам готыкі — стылю, які тады амаль непадзельна валадарыў на захадзе. Готыка спалучыла архітэктурнае разьвіцьцё Беларусі з агульнай гісторыяй заходня - эўрапэйскага будаўніцтва; з самага аднак пачатку разьвіцьцё яе мела ў нас свае собскія рысы, якія зьявіліся асновай для паўстаньня архітэктурных тыпаў *беларускае* готыкі. Тыпы гэтыя паўсталі, як зьліцьцё заходніх узораў з мясцовай традыцыяй драўлянага абароннага будаўніцтва, пры чым палажылі на іх сваё кляймо мясцовыя ўмовы, змушаючы часта ўжываць радзімае польнае каменьне замест нямецкае цэглы.

У часы князя Гедыміна збудаваны быў замак у Старых Троках, які быў рэзыдэнцыяй Вялікага Князя да перанясеньня сталіцы ў Вільню. Але ад гэтага замку нічога не захавалася.

Замкі ў Новых Троках, паводле беларускага гісторыка мастацтва Шчакаціхіна, паходжаньня пазьнейшага: адзін з бліжэйшых гадоў пасьля 1348, а другі — на высьпе — з 1382 або 1396 году.

Абодва замкі сяньня моцна разбураны. Іх падпалілі й зруйнавалі ў 1655 годзе маскоўскія войскі, а даканалі вопадзі й марозы на працягу доўгіх гадоў. Найболей пацярпеў стары замак, які знаходзіцца на беразе возера, уся унутраная частка якога была драўляная. Дрэнна захаваліся й вонкавыя муры. Замак гэты быў чатырохкутны з чатырма мураванымі з цэглы вежамі, якія часткова ўтрымаліся дагэтуль.

Шмат цікавейшыя астачы другога замку ў Троках — на высьпе, у якіх відны сьляды высока разьвітае готыкі. У замку вырозьніваюцца дзьве асобныя часткі: абаронны двохпаверхавы палац з высокаю старажоваю вежай на пярэднім фасадзе, і г. зв. „форбург" — прыгарад, які абыймаў сваімі мурамі ўсю заходнюю частку высьпы. Муры гэтыя дзеля лепшай абароннасьці праведзены ўздоўж самога берагу высьпы — і таму бачым тут адступленьне ад формы чатырохкутніка. Прыгарад умацаваны быў чатырма круглымі вежамі, з якіх да сяньня захаваліся толькі дзьве. Муры пабудаваны ў сваіх дольніх частках з гранітных валуноў, кладзеных правільнымі радамі, вышэйшыя часткі — з цэглы вялікага памеру. Вежы — цагляныя на фундамэнтах з абчэсанага граніту. У межах муроў мясьціліся розныя будынкі, з якіх нічога не захавалася.

Прыгарад лучыўся зводным мостам, перакінутым над глыбокім равом, з палацаваю часткай, якая мела характар умацаванага жылога памешканьня. Яе тварылі два прастакутныя двухпавярхавыя будынкі, злучаныя сьценамі й замыкаючыя між сабою нутраны панадворак. Уваход на гэты панадворак вёў праз высокую старажовую вежу, якая мела 6 або 7 паверхаў. Яна распалася ў 1655 годзе й да сяньня ўтрымоўваецца толькі яе ўсходняя сьцяна, прылягаючая да ўнутранага панадворку. У захаванай частцы паўночнага муру вежы ёсьць сьляды шрубавай лесьвіцы, каторая вяла на 3-ці паверх. Нутраныя муры замку, асабліва сьцены вялікай троннай залі, што мясьцілася ў паўдзённым крыле і ў каторай Казімер Ягайлавіч прыймаў вэнэцыйскага пасла Контарыні ў 1477 годзе, былі аздоблены багатым фрэскавым росьпісам. Астачы яго захаваліся дагэтуль якраз у паўдзённым крыле, дзе ўтрымаўся тынк, на паўдзённа заходняй сьцяне, асабліва ў нішах вакон. У паўночным крыле няма сьледу фрэскаў, бо тынк там асыпаўся. Фрэскі „троннае" залі наскрозь бізантыйскія. Тут яшчэ раз выступае характэрнае для старога беларускага мастацтва зьліцьцё элемэнтаў Усходу й Захаду: аўтар фрэскаў бізантынізуе на сьценах готычнае пабудовы, якой стыль і пляны заходнія. Вокны

---

**Anita**

## P a v a r o t

(Praciah, hl. „Šl. Moł." № 11).

„Ci nie bystraja rečka
vadu zamuciła,
čaho płačaš dziaŭčynačka
ci matula nia biła.
Oj, bici — nia biła, —
sama zasmuciła,
bo nia daŭ mnie Boh,
nia sudziŭ mnie Boh,
kaho ščyra lubiła..."

Pry rasčynienym vaknie tkała Nasta krosny j cicha zaciahnuła pieśni, jakija sumnym recham lacieli daloka ŭ pole, zalitaje viesnavym soncam.

Ściežkaj praz henaje pole biehła da Naści Marysia, a viasiołaja pieśnia na jejných čyrvonych vusnach zahłušała sumnuju melodyju Naści. Pad nohi Marysi kacilisia słovy Naścinaj pieśni j jana ich taptała ŭ ziamlu, nia znajučy j nie pračuvajučy svaim maładzieńkim viaśnianym sercam — tuhi darahoje svaje siabroŭki Nasty.

— Dobry dzień, Naścia! — Kab ty viedała, jak mnie było sumna, kali praz hetyja dźvie niadzieli nia bačyła ciabie!.. Ale, što tak sumna śpiavaješ ty, maładucha? Za miesiac viasielle z takim pryhožym, miłym chłapcom, a ty zusim nia ciešyśsia, dy j słovy pieśni nie dla siabie dabiraješ. .

— Praŭdu kažaš, Marysia! Śpiavaju toje, što pryjšło mnie da hałavy, — zaśmiajałasia Nasta... Sadzisia tut kala mianie, raskažu, što cikavaha bačyła ŭ hetym vialikim mieście j jakich pryhožych navučyłasia tkać uzoraŭ, praz hetyja dźvie niadzieli.

Nie mahu ciapier paznać siabie, bo tak mnoha pražyła ja apošnimi dniami. Hetaje, tak bliskoje zamužža z Michasiom, miesta, usio heta šmat mnie dało novych dumak, byccam niejkuju novuju maju dušu.

Ciapier usio chacieła-b tkać i tkać, u vačoch mnie štoraz novyja malujucca ŭzory pałotnaŭ, jakimi chacieła-b prybrać siabie, chatu j inšych hetaha navučyć. — Mastackaja rabota — skazała adna pani, pabačyŭšy ŭsie maje tkaniny. I hetyja słovy dziŭna mnie niejak nie dajuć spakoju j chočacca mnie ciapier stvaryć niešta vialikaje j novaje...Takoje—

замку з паўцыркульнымі перамычкамі, што йзноў зьяўляецца собскаю рысай архітэктурных тыпаў беларускай готыкі, якая заўсёды праяўляла тэндэнцыю да ўнікненьня стральчатае готыцкае аркі й замены яе на поўцыркульную, раманскую. Асаблівасьць гэта ўтрымалася праз ўвесь час існаваньня готыкі на Беларусі—да XVI-га стагодзьдзя.

Троцкі замак на выспе быў няпрыступным абаронным умацаваньнем. Аб яго шмат разоў разьбіліся ваенныя паходы крыжакоў, як у канцы XIV стаг. паходы пад началам Готфрыда Ліндэна й Конрада Зольльнэра. Агулам удалося яго захапіць адзін толькі раз — у 1655 годзе й то толькі шляхам пляновай і вытрывалай аблогі; да таго ў гэтыя часы ўжывалася ўжо шмат вышэйшая ваенная тэхніка, ды й замак ня быў падрыхтаваны да абароны. Гэта першая яго нягода азначала аканчальны заняпад. Замак не адбудаваўся болей ніколі. Сяньня ў байніцах пакрышаных вежаў сьвішча вецер...

S.



* * *

Хоць усе мы жывём як на вулькане,—
грозныя хмары вісяць над зямлёй,
сяньня трывога разселася паняй,
едзе у сваты з вясьнянай красой.

Трубіць труба баявыя паклічы,
гневам і помстай абурана медзь,
болю, цярпеньня —
сяньня — ня лічаць, —
стала за плечы ля кожнага сьмерць.

Моцны рыхтуецца з ворагам сьцяцца,
слабых з дабыткам возьмуць ў палон.
Хіба паэт толькі можа прызнацца,
што усё-ж сьніць аб прыгожасьці сон.

*М. Машара*

## Вясна

На струнах медных сосны —
сустрэчны марш
зайграў вецер вясьне.
Вясна снуе шаўковай пражай кросны
і сонца золатам абрус узорны тчэ.

Лісты шаўковыя: кляноў, дубоў, бярозаў,
язьмін красуецца пахучы пад вакном,
сад бельлю пеніцца, бы іней ад марозу,
то краскі пырскаюць на землю малаком.

Чароўны май — прыгожасьцямі п'яны,
мастак красы, касмэтык ля душы.
Куды ня глянь, усё размалявана,
іграюць з ветрыкам лісточкі дрэў вяршын.

Ліецца арамат, цалуе сонца нівы,
і рунь кудравая усю зямлю ўпляла,
вачамі п'еш красу і ў грудзі йдуць прылівы
паветра чыстага, як раньняя раса.

Шапочуць вечарам лісты дрэў у зэфіры,
складаюць песьні небу і красе,
і зоркі усьмешліва міргаюць ў сінім віры,
навокал чуецца прывет, прывет, вясьне!

*П. Граніт*

svajo rodnaje, biełaruskaje...

Marysia cicha siadzieła j słuchała pavažna Nasty, katoraja sapraŭdy stałasia niejkaj inšaj. Doŭha adnak nie mahła tryvać i zaraz joj pierarvała:

— Nu, Naścia, ja ciapier peŭnie ad ciabie nia vyjdu, pakul nie navučusia hetak tkać, jak ty... Ale, ci ty viedaješ, što viarnuŭsia da chaty Aleś, brat tvajho Michasia?..

— Tak?.. Bačyła ty mo' jaho?.. Bo ja ničoha nia čuła ab hetym, —adkazała Nasta i śchiliłasia nad krosnami nizka, kab źviazać nitku što parvałasia ŭ asnovie.

— Nia tolki bačyła, ale havaryła doŭha j cely viečar učarašni hulała z im na viečarynie. A muzykant z jaho, dyk i nasłuchacca niemahčyma... Miły j cikavy chłapiec! — skazała z zachopleńniem Marysia.

Nasta padniała vočy na jaje j moža pieršy raz zaŭvažyła vyrazna piekność maładzieńkaj dziaŭčyny, z katoraju vielmi pryjaźniłasia.

— Padabaŭsia jon tabie?

— Vielmi padabaŭsia, ale tvoj Michaś małodšy j pryhažejšy.

— I pajšła-b ty za jaho, kab ciabie braŭ?

— Pajšła b, navat nia dumaŭšy, chacia ludzi tak i siak havorać ab im. Dy moj tata vielmi choča mianie za jaho addać — kaža, što hety chłapiec maje „hałavu" j užo z jahonym baćkam havaryŭ. Kazaŭ, što nie paškadu je mnie dobraha pasahu. Ach, Naścia, kab heta mahło tak ščaślìva stacca j my z taboj razam mahli žyć na hetaj samaj haspadarcy, pracavać, tkać štoraz to novyja, inšyja pałotny na krosnach!..

Ale ja zahavaryłasia z taboju, a tut užo sonca nizieńka. Biahu da chaty, byvaj, Naścia. Tolki maja daražeńkaja, załataja, nikomu ničoha nie kažy, što ja tabie skazała

Nasta astałasia sama j ŭ cišyni nadychodziačaha viečaru viarnulisia k joj uspaminy ščaślivaj viasny, katoraja nikoli nia viernicca, chacia Aleś viarnuŭsia. Jana kaliś tak mocna kachała j vieryła, što Aleś budzie zaŭsiody jejnym. Zdavałasia joj, što da śmierci ich viažuć supolnyja ideały, imknieńni j latucieńni. Jon razbudziŭ jejnuju dušu, adkryŭ vočy j navučyŭ, pakazaŭ šmat cika-

# Tureččyna j Kemal Atatiurk

Niadaŭna byli my śviedkami, a prynamsi čytali ŭ hazetach ab tym, jak dyplamaty Anhlii j Francyi z adnaje starany, a dyplamaty Niamieččyny j Italii z druhoje,— navypieradki staralisia zdabyć sabie prychilnaść Tureččyny.—Čamu-ž heta tak staralisia henyja dyplamaty, nie adzin mo' zapytaje? Tureččyna-ž — kraina nia nadta vialikaja: zajmaje jana abšar 763,000 kv. klm. Usich žycharoŭ maje 15 miljonaŭ. Tureččyna j nia vielmi bahataja, choć maje niekatoryja redka spatykanyja minerały, jak marskuju pienku j šmyrhiel. Hałoŭnym zaniaćciem Turkaŭ źjaŭlajecca ziemlarobstva j hadoŭla chatniaje žyvioły. Jość adnak u Tureččynie kapalni kamiennaha j buraha vuhla, rudy miedzi j žaleza, sierki, volava, i, jak užo było skazana, jość šmyrhiel i marskaja pienka, z jakoje robiać roznyja drobnyja pradmiety (lalki, papiarośnicy j inš.) Maje Tureččyna lasy z vysokavartasnymi drevami (duby, cedry, cyprysy, kaštany). Z źviarat hadujuć Turki najbolš: aviec, kozaŭ zvyčajnych i angorskich z darahoj voŭnaj, dalej karoŭ, viarbludoŭ, koniaŭ. Zahranicu-ž najbolš vyvozić Tureččyna vinahradu, razynkaŭ, tytunu, alejkaŭ, bavoŭny, opiumu, dyvanoŭ i humy. Tureččyna ahułam słaba zasielena: na 1 kv. klm. žyvie tam 20 asob. Najbolšym miestam jość Kanstantynopal, dzie žyvie 741,000 žycharoŭ, dalej Smyrna (160,000 žych.), stalica Tureččyny Angora (105,000 žych) j Adrjanopal. Promysł turecki raźvinuty słaba. — Voś-ža Tureččyna nie pryciahnuła ŭvahi ani niamieckich i italjanskich, ani anhlijskich i francuskich palitykaŭ svaimi bahaćciami abo promysłam, a svaim hieohrafičnym pałažeńniem.

Tureččyna raspałožana častkova na Bałkanskim paŭvostravie j u Małoj Azii, nad Mižziemnym i Čornym Morami. Pry tym, u jaje rukach znachodziacca vielmi važnyja z punktu hledžańnia stratehičnaha (vajennaha) ciaśnini: Dardanel i Bosfar, jakimi spałučajecca Mižziemnaje Mora z Moram Čornym. Dardanel takim čynam jość varotami da uschodniaje Eŭropy, a dalej da Azii. Praz hetyja varoty Niamieččyna z Italijaj dumała jści na uschod u Aziju, pa naftu ŭ Bahdad, na Kaŭkaz, u Indyju, u Kitaj — na spatkańnie svajej sajuźnicy Japonii. Anhlija j Francyja chočuć mieć praz Dardanel i Čornaje Mora łučnaść z SSSR i z Rumynijaj, z jakoj nie hraničacca, a jakoj zahvarantavali niezaležnaść i pomač na vypadak vajny.

U časie Suśvietnaj Vajny Tureččyna jšła z Niamieččynaj j Dardanelskaja ciaśninia była takoj mocnaj krepaściaj, što mima vialikich natuhaŭ Anhlii, Francyi j Rasiei nie ŭdałosia jaje raźbić. Z Dardanelu-ž niamieckaja flota rabiła vializarnyja škody Rasiei na Čornym Mory, zataplajučy rasiejskija karabli, dy bambardujučy Adesu, Sievastopal, Novarasiejsk, Teodoziju. I ciapier, kali nastaŭ tryvožny čas, Niamieččyna chacieła-b mieć sabie sajuźnicaj Tureččynu j svaju vajennuju bazu ŭ Dardaneli. Adnak hetym razam Tureččyna zakłučyła sajuz z Anhlijaj i Francyjaj, dajučy im svabodny dostup u Dardanel i prajezd na Čornaje Mora. Takim čynam Anhlija j Francyja majuć mahčymaść łučnaści z Rumynijaj, a što najhałaŭniejšaje moža dla ich — heta toje, što mohuć kryžavać paŭdzionna - ŭschodnija plany Niamieččyny j baranić svaich kalonijaŭ u Azii, dy ahułam uzmacoŭvać svaje ŭpłyvy na Bałkanskim paŭvostravie: u Hrecyi, Baŭharyi, a navat i ŭ Juhasłavii. Vyjhryš u hetym Anhlii j Francyi vialiki.

Niekatoryja kažuć, što Tureččyna padpisała dahavor z Anhlijaj i Francyjaj byccam z uvahi na palityčny plan i pierakanańni vialikaha tureckaha pravadyra Kemala Atatiurka, katory ŭ minułym hodzie pamior i katory kazaŭ, što: „Na vajnie z Anhlijaj nichto nia vyjšaŭ dobra — taksama, jak na pryjaźni z Niamieččynaj". Dumajem, što nia tolki heta pamahło Anhlijcam i Francuzam, moža navat bolš u hetym pamahli vialikija ichnija ŭstupki Tureččynie, a imienna: Francyja, kab zdabyć pryjaźń Tureččyny j dostup u Dardanel, addała joj u Małoj Azii cely vokruh („Sandžak") z m. Aleksandretaj u katorym sama dasiul haspadaryła.

Ale ŭspomnili my tut ab Kemal-Paša Atatiurku, dyk varta choć krychu zatrymacca j paznajomicca z jahonaj vialikaj dziejnaściaj i reformami, jakimi pierabudavaŭ jon Tureččynu.

Kemal Mustafa radziŭsia ŭ 1881 h. Byŭ jon synam niavysokaha ŭradaŭca. Paśla skančeńnia siaredniaje škoły pajšoŭ na słužbu ŭ vojska j ad 1911 h. da 1922 h., badaj biezpraŭryŭna, vajavaŭ za svaju baćkaŭščynu — Tureččynu. Spačatku braŭ jon udzieł u vajnie Tureččyny z Italijaj, paśla ŭ bał-

---

vych źjaviščaŭ i adyjšoŭ, zapiarečyŭšy ŭsim svaim słovam, katoryja byli joj vialikimi, amal śviatymi. Adyjšoŭ... Prasiŭ čakać,- čakała doŭha. Viasna išła za viasnoj, a jon pierastaŭ navat adzyvacca. Tady pryjšoŭ Michaś, jaho małodšy brat. Doŭha biłasia z dumkami, i zhadziłasia iści za jaho. Bo ŭžo j u baćkaŭskaj chacie ciesna stała,— bratnija dzieci płakali ŭ kałyscy, raśli j pavialičali siamju. Čakała roŭna piać hadoŭ. Praz zimu tkała ŭzorystyja tkaniny j utykała svaje dumki j latucieńni maładaści... Viasnoj—na zialonym łuhu—razciahivała biełyja pałotny, jak darohu, katoraju chacieła pryzvać, viarnuć joju Alesia. I viarnuŭsia, viarnuŭsia da pryhožaj, maładzieńkaj Marysi.

Dumki Naści pierarvaŭ płač dziciaci ŭ kałyscy, dyk padbiehła, śchiliłasia nad im i pačała kałychać. Sałodki son chutka zakryŭ vočki maleńkaje asoby, a Nasta ŭściaž kałychała j pryhavarvała: cicha, cicha, nia płač... Uspakojvała jana nia tolki dzicianio, ale j svajo serca, kab zasnuła j zabyłasia ab usim.

Miesiačnaja, ciopłaja noč aharnuła cichim snom ziamlu j łohkim vietrykam atrasała z drevaŭ śniežnuju biel krasak. Zahublenyja ŭ imhle sadoŭ zacichali sałaŭi, kab chutka razam z śvitam spatkać novy dzień viasny, žyćcia j radaści. Aleś viartaŭsia da chaty z sercam nakipiełym ščaściem j sumam. U sadzie pad chataj natknuŭsia jon na Michasia, siadziačaha na łaŭcy.

— Ty nia śpiš jašče? — pytaŭ jaho.

— Nie. Nia splu. Čakaju, kab z taboj pahavaryć, kab skazać tabie, što ty nia maješ prava mucić i buryć mnie ščaście. Viedaju, što ciapier viartaješsia ad Naści i nia tolki ciapierašnija, ale ŭsie papiarednija spatkańni znaju... Słuchaj, Aleś.. —Michaś ustaŭ z łaŭki j pajšoŭ da brata bliska, hledziačy jamu ŭ vočy.

— Aleś, nie rabi mnie kryŭdy, užo zapozna napraŭlać kryŭdu Nasty, adyjdzi ad jaje dzie ty byŭ upierad?..

—Aleś, ty zaŭsiody buryš spakoj, dahetul ja słova tabie nie skazaŭ, ale hetaha ŭžo ściarpieć

kanskich vojnach — z Baŭharyjaj, Hrecyjaj, dalej u Suśvietnaj Vajnie j u 1921 h. iznoŭ u vajnie z Hrecyjaj. Najbolšuju slavu Kemal zdabyŭ u časie Suśvietnaj Vajny, kirujučy abaronaj Dardanelu ad anhlijskaha j francuskaha nastupu. Zdabyŭšy slavu j dziakujučy svaim aratarskim i vajskovym zdolnaściam, Kemal staŭsia pravadyrom novaje



Kemal Atatiurk

Tureččyny. Nia hledziačy na toje, što Tureččyna razam z Niamieččynaj prajhrała Suśvietnuju Vajnu j ad jaje zabrana było mnoha abšaraŭ u Małoj Azii, adnak Kemalu ŭdałosia adabrać niekatoryja abšary. Vajavaŭ jon za heta navat z francuskimi vojskami ŭ Małoj Azii, dy z Hrecyjaj.

Udziačnyja Turki, acaniajučy zasłuhi Kemala, u 1923 h. vybrali Kemala na Prezydenta Tureččyny, i heta stanovišča zajmaŭ jon da śmierci. Kemal pravioŭ vialikija reformy. Pierad usim pazbyŭsia jon usieŭładnaha sułtana, katory raniej kiravaŭ Tureččynaj. Zavioŭ respublikanski ład i skasavaŭ pryvilei musulmanskaha duchavienstva, kataraje mieła vializarnyja ŭpłyvy (ŭsie badaj Turki vyznajuć relihiju musulmanskuju). Pazačyniaŭ klaštary, duchoŭnyja škoły, a sarhanizavaŭ školnictva, usim dastupnaje, na ŭzor anhlijski. U škołach pačatkavych i siarednich zahvarantavaŭ usim žycharom biasplatny dostup da navuki. Pazakładaŭ škoły ramieśnickija, handlovyja, ziemlarobskija j škoły vyšejšyja. Ziamlu, jakaja pieravažna była ŭłasnaściaj duchoŭnikaŭ i sułtanaŭ i za abrobku jakoje tureckija sialanie musieli płacić vialikija padatki ad dziesiaciny, Kemal Atatiurk ad henych ułaśnikaŭ adabraŭ i skasavaŭ siaredniaviečnyja padatki. Kab padniać niski rovień ziemlarobstva, Kemal vypisaŭ z zahranicy vializarnuju kolkaść płuhoŭ i traktaraŭ i razdaŭ ich sialanam. Dziela bolšaha zbližeńnia Turkaŭ z narodami Eŭropy Kemal skasavaŭ ciažki da navuki turecki alfabet, a ŭvioŭ łacinku. Dalej pačaŭ jon vyvodzić staryja tureckija zvyčai. Tak napr. raniej Turak moh mieć 4 žonki, dy jašče niekalki trymać u haremie. Sułtan mieŭ 7 žonak i niekalki sot žančyn u haremie. Kali ž katoraja-niebudź žančyna sułtanu abrydła, dyk jaje dušyli, abo tapili. Žančyna ŭ Tureččynie była niavolnicaj. Da škołaŭ žančynam ustup byŭ zabaronieny. Usio heta Kemal Atatiurk skasavaŭ. Žančyna atrymała ŭsie pravy. Źniesiena mnohažanstva, haremy, uviedzieny cyvilnyja śluby. Žančyny pajšli ŭ škoły, u ŭrady, pradpryjemstvy; praviali ŭ parlament svaich pradstaŭnic i h. d. Mužčynam zabaroniena nasić stara-tureckija šapki „fezy", a ŭsie pačali nasić šapki j kapialušy takija, jakija nosiać usie eŭrapejcy. Pabudavana mnoha kinamatahrafaŭ, špitalaŭ, narodnych damoŭ i im padobnych kulturnych i aśvietnych ustanoŭ. Razbudavaŭ promysieł. Stvaryŭ silnuju armiju. Mima taho, što niekatoryja ŭvažajuć Tureččynu haspadarstvam biednym i niesamavystarčalnym, na ŭsiu hetuju pierabudovu Kemal uziaŭ tolki adnu pazyku zahranicaj, ad SSSR. Reštu koštaŭ pakryŭ z biahučych haspadarstviennych dachodaŭ, umieła kirujučy svajej respublikaj. — Słovam, Kemal pravioŭ hieneralnuju reformu, źmienu ŭ žyćci Turkaŭ, pieramahajučy vialikija praškody z boku musulmanskaha duchavienstva, sułtana j ichnich prysłužnikaŭ. Tureččyna stałasia krainaj kulturnaj. Uva ŭsich halinach zrabiła vialiki postup. Tak naprykład, kali Kemal braŭ uładu ŭ Tureččynie, 85 prac. nasielnictva było analfabetami. — Ciapier u Tureččynie analfabetaŭ kala 69 pracentaŭ. U 1938 h. u Tureččynie vychodziła ŭžo 1287 časapisaŭ, jakija majuć bolš 500,000 čytačoŭ, a 10 hod tamu čytała hazety ŭ Tureččynie tolki kala 40,000 asob.

Zasłuhi Kemala dla Tureččyny vializarnyja. Turki heta acaniajuć i nazvali jaho Atatiurkam — baćkam, a tak-ža Ghazi — pieramožcam.

Pamior Kemal Atatiurk 11 listapada 1938 h. Paśla pachovinaŭ adčynili jahony testament, u jakim Atatiurk zahadaŭ z jahonaje majemaści dahledzić piać prybranych dačok, sirot pa aficerach i žaŭnierach z vajny, a reštu svajho bahaćcia ŭ całaści zapisaŭ turec-

---

nie mahu. Naścia peŭnie praz ciabie adkładaje viasielle...

— Ciažka mnie słuchać, Michaś, — tvaich słoŭ. Mo' heta j praŭda, što ja ŭsim buru supakoj... Ale ci ty peŭny, što Naścia budzie z taboj ščaśliva, bo ja-ž u jejnym žyćci astanusia zaŭsiody, choć moža balučym, uspaminam. Ty dobra padumaj, Michaś, dy možam pačakać, što skaža jana,— tady ja zyjdu vam z vačej.

— Nie, heta nia jość vychad, ty žanisia z Marysiaj, ja tabie Naści nia dam...

— Ach, Aleś, što ty robiš? Čamu ty pakidaŭ nas i čamu ty viarnuŭsia, kab kahoś mučyć?..

Michaś zaviarnuŭsia j pajšoŭ da chaty. Aleś ciažka sieŭ na łaŭcy, sumnyja dumki adhaniali jahony son. Ciapier nia moh paniać siabie, jak moh zabyć hetuju dziaŭčynu j čamu dziŭny los bratu jaje praznačyŭ. Nie chacieŭ jahonaj kryŭdy. I jak tut zrabić, kali ŭžo tam, skul viarnuŭsia, pavarotu być nia moža. Luboŭ ziamli j Nasta astalisia jamu adzinym źmiestam i metaj žyćcia. Zabłudziła ŭ sumnych dumkach duša Alesia j pavarot staŭsia daloki j niemahčymy.

---

U jasnaj, prastornaj chacie Michasia j Alesia stajali pad vaknom novyja krosny, jakimi tkali Naścia j Marysia. Załatyja pramieńni viaśnianaha sonca błytalisia ŭ ciomnych vałasoch Marysi j jasnych Nasty. Pachilalisia dźvie maładyja haloŭki nad uzorystaj tkaninaj i łavili recha pieśni, jakuju śpiavali zhodna razam u poli Michaś i Aleś. Viasiołaja pieśnia radaściaj napaŭniała sercy Marysi j Nasty.

Stałasia tak ščaśliva, jak latucieła Marysia, tolki z pieramienaj, jakaja była dla usich niespadzieŭkaj: Aleś viarnuŭsia da Nasty, Michaś ažaniŭsia z Marysiaj. Pavarot Alesia byŭ dla ŭsich ščaściem.

(*Kaniec*)

## Źjezd Biełarusaŭ u Hdansku?

„Kurjer Polski", a za im „Robotnik" (Nr. 173 z 23.VI 1939 r.) i inšyja polskija hazety padali na stupnuju viestku:

„U Hdansku (!) adbyŭsia „**Kanhres**" biełaruskich dziejačoŭ z Polšču, Litvy, Łatvii, Estonii, Saviecкaje Rasiei j Złučanych Štataŭ. Delehat z Ameryki staraŭsia pierakanać sabranych, što niamiecki ŭrad **planuje stvareńnie niezaležnaha biełaruskaha haspadarstva (!)** j što dziela hetaha Biełarusy pavinny pamahać Niemcam u realizacyi ich planaŭ na ŭschodzie Eŭropy.

Na zjeździe biełaruskim **nia było zhody.** Bolšaść dziejačoŭ z Eŭropy vyskazałasia suproć uprahańnia biełaruskaha narodu ŭ voz niamieckaje imperjalistyčnaje palityki".

„Robotnik" kaža: „Moža chodzić hitleroŭcam tak-ža ab inšaje haspadarstva, ale pierad usim—ab Polšč", bo „Kur. Polski" piša dalej:

„Sutnaść prablemy znachodzicca ŭ tym, što Niemcy najchuččej arhanizujuć prapahandnaje zmahańnie, i ŭ hetym zmahańni jość pryznačanaja niejkaja rola dla Biełarusaŭ, abo dla **prablemy biełaruskaj.** Biełarusy, jakija pracujuć **u Polšču,** užo niekalki tydniaŭ tamu zvaročvali ŭvahu, što niamieckija ahienty starajucca zakinuć svaje sietki j vyjhryvać biełaruskuju nacyjanalnuju mienšaść".

Kolki ŭ hetym usim praŭdy, nam nia viedama. Padajom hetuju viestku prosta dziela cikavaŝci, jak sensacyju. Zaznačajem, što moža być jana j pravakacyjaj.

---

kamu narodu. Jak bačym, usio žyćcio j pracu svaju Kemal Atatiurk paśviaciŭ dziela dabra svajho narodu, dajučy prykład vialikaha patryjatyzmu. I siańnia, kali Atatiurk — Baćka Tureččyny nia žyvie, usia tureckaja moładź na pamiać vučycca jahonych słoŭ, jakimi jon hetak prahavarvaŭ da jaje: „Tureckaja moładź! Vašym daśmiertnym abaviazkam jość utrymać i abaranić tureckuju niezaležnaść. Heta adziny sens vašaha žyćcia, isnavańnia j vašaj budučyni. Heta sutnaść źjaŭlajecca najdaražejšym vašym skarbam. I ŭ budučyni znajducca vorahi nutranyja ci vonkavyja, jakija zachočuć pazbavić hetaha skarbu. Biaz vahańnia j biaz nijakaha sumnivu pavinny spoŭnić vy svoj abaviazak, kali vam prydziecca baranić samastojnaść i haspadarstva". ...„Siła, jakoj da hetaha patrabujecie, kružyć z kryvioj u vašych žyłach".

**J. N.**

## Чаму гэта так?

Найбольш лічнымі, найстарэйшымі, сталымі жыхарамі нашага краю зьяўляюцца Беларусы, а на паўночным пагранічы яго — Літоўцы. Сярод Беларусаў жывуць яшчэ Палякі (шляхта, каляністы й ўрадаўцы), Жыды й Расейцы. Расейцы — гэта наплывовы элемэнт з часоў царскарасейскага тут панаваньня. Аднак Расейцы, хоць іх мала, маюць свае арганізацыі, праводзяць сваю дзейнасьць нават на вёсцы, русыфікуючы беларускіх сялян. Зусім інакш у Беларусаў: арганізацыі амаль усе зьліквідаваны адміністрацыйнымі ўладамі й на іх адчыненьне нанова няма дасюль дазволу, а Віленскае Гарадзкое Старасства не давала нават дазволаў на беларускія канцэрты ў Вільні. Расейцы ў тойжа Вільні ладзяць свае канцэрты, прадстаўленьні й арганізуюць сьвяткаваньні ў чэсьць расейскае культуры і г. д. Між іншым 25.VI у Вільні адбылося сьвяткаваньне „Дня Русскае Культуры", у праграме якога былі 3 рэфараты, выступленьні сьпявака Бэнoняга і расейскага хору.

Апрача Расейцаў, не гаворачы ўжо аб Палякох, маюць свае культурна-асьветныя арганізацыі Жыды й Літоўцы й праводзяць сваю дзейнасьць. Няма-ж арганізацыйна-культурнага жыцьця толькі ў Беларусаў. А чым напрыклад Расейцы лепшыя за Беларусаў? Чаму адным даецца дазволы, а другім не? На пытаньне гэтае немагчыма знайсьці адказу простага й яснага... І дзеля гэтага душу кожнага Беларуса агартае пачуцьцё вялікае крыўды й жалю.

Глядзіць на гэта ўвесь сьвет і ня дзіва тады, што паяўляюцца весткі, што некаторыя дзейнікі гэны жаль Беларусаў хочуць выкарыстаць для сваіх мэтаў..

**Я—к.**

*Ці выпісываеце і чытаеце Вы „Калосьсе" — беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі квартальны часапіс? „Калосьсе" ўжо выходзе 5-ты год. „Калосьсе" павінна быць у кожнай беларускай хаце, у кожнага беларускага інтэлігента. Кaштуе ўгод: у краі 2 зл., загр. 3 зл. 20 гр., асобны нумар—50 гр. Адрас рэд. і адм.— Вільня, Завальная 1—2.*

*Ужо выйшла з друку кніжка 2 „Калосьсья" за 1939 г. з вельмі цікавым і размавітым зьместам.*

## Biełaruskaja chronika

**Dr. St. Hrynkievič atrymaŭ naharodu.** Viedamaja ŭ Polšču navukovaja fundacyja im. praf. Radziviłoviča pryznała sioleta pieršuju naharodu za całaść navukovaje pracy z haliny psychijatryi j neŭralohii viedamamu biełaruskamu dziejaču, doktaru medycyny Stanisłavu Hrynkieviču. Dr. St. Hrynkievič dasiul napisaŭ z haliny psychijatryi j neŭralohii 16 pracaŭ. Aprača taho dr. St. Hr. maje vydanych niekalki biełaruskich knižak z haliny ahulnamedycynskaj, kulturna-aśvietnaje j litaraturnaje. Pavažanaha Laureata vitajem i žadajem dalejšaje płodnaje pracy jak na nivie medycynskaj tak i biełaruskaj.

**Śmierć L. Kulešychi.** 21.VI.39 pamiorła ŭ Vilni hram-ka Lala Kulešycha z domu Menkaŭ. U svaim časie śv. p. L. Kulešycha brała dziejnaje ŭčaście ŭ biełaruskim ruchu. Miž inšym pracavała ŭ Biełaruskim Teatry. — Viečny Joj supakoj!

**Revizija.** 20. VI. 39 h. u Vilni palicyja zrabiła reviziju ŭ biełaruskaha dziejača dr. J. Stankieviča.

**Navukovaja zborka Biełarusaviedy.** U suviazi z letnimi kanikułami ŭ studentaŭ, a tak-ža dziela taho, što niekatoryja biel. studenty majuć pravodzić roznyja biel. navukovyja pracy na vioscy, T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy ładziła 24.VI.39 specyjalnuju zborku pryśviečanuju navukovaj pracy ŭletku.

**Novyja biełaruskija praŭniki.** Nadoviačy končyli navuki na praŭnym fakultecie Vilenskaha Universytetu Biełarusy: Vacłaŭ Papucevič, Vinceś Skłuboŭski i Vasil Plaskač i atrymali tytuły magistra praŭ i hramadzkich navuk. — Vitajem ich i žadajem płodnaje pracy na biełaruskaj nivie!..

**Zborniki tvoraŭ S. Chmary j H. Novik.** Niezadoŭha ŭ Vilni majuć vyjšci z druku zborniki tvoraŭ biełaruskich paetaŭ: Siarhieja Chmary j Hanny Novik.

**Lekcyja Chv. Iljaševiča.** Biel. paet i nastaŭnik mgr. Chv. Iljaševič pračytaŭ anahdaj u Vilni ŭ Biel. Navukovym T-vie, a tak-ža ŭ polskim T-vie Pryjacielaŭ Navuki lekcyju na temu: „Nastaŭnik i jaho vučań" (narys biohrafii mastaka XVIII st. A. Hrušeckaha).

**Z dziejnaści Biel. Narodnaha Teatru, ŭ Litvie.** 10. VI sioł. Biel. Narodn. Teatr u Litvie ładziŭ biel. viečarynu ŭ Šyrvintach. Stavili tam „Ptušku ščaścia" F. Alachnoviča, a tak-ža vystupaŭ chor i balet.

## ШТО ЧУВАЦЬ

— **У Польшчы** вялікую ўвагу зварочваюць на паездку палкоўніка Коца ў Англію, дзе стараецца ён для Польшчы пазыкі.

— **У Літве** адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 20-х угодкаў існаваньня літоўскае стралецкае арганізацыі „Шаўлісаў“. На сьвяткаваньні гэтым 25.VI сказаў прамову ген. Раштікіс, каторы між іншым заявіў гэтак: „Усе служам незалежнай Літве й гатовы, калі зайдзе патрэба, бараніць вольнасьць і незалежнасьць нашай крывёй“.

— **У Нямеччыне** найбольш галоснымі зьяўляюцца цяпер даволі частыя прамовы міністра прапаганды Гэбэльса. Між іншым вялікую прамову сказаў мін. Гэбэльс 21 VI на старагерманскім сьвяце перамогі дня над ночай у Бэрліне, у якой ён заявіў, што **Нямеччына мае адну мэту: «Хочам здабыць назад тое ўсё, што да нас у гісторыі належала».** 18.VI быў мін. Гэбэльс у Гданску, дзе пачаў тыдзень, прысьвячаны нямецкай культуры, прамовай, заяўляючы, што, як сказаў у Рэйхстагу канцлер Гітлер, — Гданск ёсьць нямецкім местам і хоча павароту да Нямеччыны. „Сьвет — казаў далей Гэбэльс — мусіць зразумець, што наш правадыр ня кідае слоў на вецер“. — На прамову гэту абурылася француская прэса, каторая ўважае словы Гэбэльса за знак, што Гітлер адмаўляецца ўжо ад перагавораў у справе Гданска.

— **Англійска-француска-савецкія перагаворы** ў Маскве ў справе саюзу на выпадак вайны не пасунуліся наперад. Не памог нічога й спэцыяльны дэлегат англійскага ўраду Странг, каторы прабывае ў Маскве ўжо больш 10 дзён. Аднак англійскія й францускія палітыкі вераць, што ўсё-ж СССР падпіша з Англіяй і Францыяй саюз. Але ёсьць ужо й такія, каторыя ў савецкіх адцягваньнях з падпісаньнем саюзу бачаць кантакт маскоўскіх палітыкаў з нямецкімі.

— Толькі 26.VI сьвет даведаўся з афіцыяльнага паведамленьня савецкага прэсавага агенства Тасс, што **на граніцы манджурска - мангольска-савецкай ад 11 мая сёл. ідуць баі.** Тасс кажа, што бальшавікі ўжо забілі каля 400 Японцаў, многа ранілі й зьбілі 31 японскіх самалётаў. Ім-жа Японцы забілі 40 жаўнераў і зьбілі 12 самалётаў. Японскія-ж паведамленьні кажуць, што Японцы да 26.VI зьбілі 275 савецкіх самалётаў; у адным толькі баі зьбітых было 49 сав. самалётаў. Барацьба далей ідзе. Вонкавай прычыней яе зьяўляецца, быццам, тое, што Японцы паціху забіралі кавалкі савецкае тэрыторыі ў Азіі, а бальшавікі такія-ж кавалкі японскае тэрыторыі.

— **На Далёкім Усходзе паўстала так-жа непаразуменьне японска - аглійскае.** Справа ў тым, што Японія падазрае, што Англія падтрымлівае Кітай у вайне з Японіяй. Англія мае ў Кітаі ў розных гандлёва-партовых местах свае аўтаномныя кварталы (канцэсіі), з якіх Англійцы на аснове ўмоваў з Кітайцамі блізу ўжо 100 год (ад оп'юмавай вайны ў Кітаі), зьяўляюцца поўнымі гаспадарамі. Такія аўтаномныя кварталы ў некаторых кітайскіх местах маюць Францыя й Злуч. Шт. Паўночнай Амэрыкі. Дасюль асталаліся гэныя кварталы пастарому й ува ўсіх тых местах, якія забралі Японцы. Вось-жа Японцы абкружылі ў Тьентсіне англійскі квартал і паставілі Англіі ўльтыматыўныя дамаганьні: каб яна перастала падтрымліваць Кітайцаў і каб японская паліцыя мела права кантролі ў англійскім квартале; калі-ж Англія на гэта ня згодзіцца, дык тады японскае войска не дапусьціць у англійскі квартал ніякіх прадуктаў. Англійцы ў Тьентсіне сталі перад пагрозай голаду. Але англійскае войска (флёта) на Далёкім Усходзе, ня гледзячы на японскія пагрозы, дастаўляла Англійцам у Тьентсіне прадукты й навязала кантакт з флётай францускай і амэрыканскай, каторыя сьцерагуць сваіх кварталаў у кітайскіх местах і каторыя сталі па старане Агліі. З японскага ўльтыматум пакульшто нічога ня выйшла. Палажэньне аднак на Далёкім Усходзе ў Тьентсіне, а такжа й у іншых местах, як Сватоў, Шангай — напружанае. Аднак ужо 27.VI Японцы выявілі ахвоту навязаць перагаворы з Англіяй.

— **У Эстоніі** 12.VI.39 г. у м. Тарту памёр праф. М. А. Курчінскі — віцэ-старшыня Кангрэсаў Нацыянальных Меншасьцяў, у працы якіх прыймалі ўдзел і прадстаўнікі Беларусаў. Праф. Курчінскі быў дэлегатам на Кангрэс ад расейскае нацыянальнае меншасьці ў Эстоніі.

## Новы закон аб ваенным палажэньні

Польскі Сойм прыняў 6.6.39 г. ўрадавы праект закону аб ваенным палажэньні.

Згодна з гэтым праектам ваеннае палажэньне ў паасобных мясцох і ў цэлай дзяржаве абвяшчае Прэзыдэнт Рэспублікі. З хвілінай увядзеньня ваеннага палажэньня агранічаюцца грамадзянскія свабоды. Улады агульнай адміністрацыі (паліцыя) могуць асоб, якія пагражаюць публічнай бясьпецы, супакою й парадку, а так-жа тых, хто пагражае інтарэсам дзяржавы, трымаць у арышце ў працягу аднаго месяца. Арышт гэткі ў справах крымінальных можа трываць і праз тры месяцы. Інтэрнаваць западозраных асоб будуць магчы ўлады праз увесь час трываньня ваеннага палажэньня. Асобы западозраныя ў шпіонажы ня могуць быць выпушчаны на волю за каўцыю (залог) у грошах. На час трываньня ваеннага палажэньня, Міністэрства Земляробства выдасьць асобнае распараджэньне ў справе заправіянтаваньня насельніцтва спажывецкімі прадуктамі й у справе вэтэрынарнага надзору над жывёлай, а Міністэрства Грамадзкай апекі выдасьць распараджэньне аб даглядзе санітарным.

Падчас ваеннага палажэньня цывільныя ўлады перадаюць свае функцыі ўладам ваенным. На абшары абнятым ваенным палажэньнем можа быць уведзена й ваеннае судаводзтва, якому будуць падлягаць усе справы зьвязаныя з абаронай краю. У гэтым выпадку не абавязваюць тэрміны судовай працэдуры цывільнай. Забавязаньні з ваеннага судаводзтва трываюць і па скасаваньні ваеннага палажэньня так доўга, аж пакуль ваенныя суды ня будуць адкліканы Міністэрскай Радай.

Праступкі проціў гэтага распараджэньня будуць караццa штрафам да 10 тысяч зл. і вязьніцай да аднаго году. Проціў прысуду Акружнога Суду ў такім выпадку няма апэляцыі.

З хвілінай абвешчаньня ваеннага палажэньня касуецца палажэньне выняткавае, калі такое было абвешчана, але загады выданыя падчас выняткавага палажэньня важны аж да часу, пакуль ня будзе скасавана ваеннае палажэньне. Касуецца ваеннае палажэньне наказам Прэзыдэнта Рэспублікі.

*Pierasyłka apłačana ryčałtam.*



## Прачніся

Прачніся, мой дружа, з глыбокага сна, —
Глянь, сонца сьмяецца з-за хмар,
Наўкола шуміць маладая вясна,
Й зямлі абнаўляецца твар.

Устань і прыслухайся песьні шчасьлівай,
Што звонка пад небам жаўранкі пяюць
Й за працу бярыся, мой дружа, ўсей сілай,
Навукай сьвятлейшую долю здабудзь!

Імкніся, мой дружа, да яснага сонца,
На сьветлы усыпаны шчасьцем абшар,
Бо-ж цемра й нядоля ўжо збрыдлі бязконца,
Час скінуць нам гэты цяжар!

*П. Сушко*

## Pamiorła T. Perlicha

18.VI. 1939 u Varšavie pamiorła viedamaja sacyjalistyčnaja dziejačka Teresa Perlicha, udava pa b. redaktaru „Rabotnika" j adnym z najbolš vydatnych dziejačoŭ PPS Feliksie Perlu.

Teresa Perlicha pachodziła z drobna-miaščanskaje žydoŭskaje siamji z Słonima. Radziłasia ŭ 1871 h. Udzieł u sacyjalistyčnym ruchu pačała brać z maładych hadoŭ. Supracoŭničała jana, miž inšym i z Piłsudskim, Słaŭkam, Prystaram, žonkaj Piłsudskaha, katoryja kaliś byli sacyjalistami. Dla Biełarusaŭ cikava budzie viedać, što Perlicha stykałasia j z biełaruskim adradženskim rucham. Ab hetym piša K. Pužak 21.VI 1939 h., u „Rabotniku" nastupnaje: „u suviazi z budziačymsia biełaruskim rucham PPS pastanaviła załažyć u Horadni nielehalnuju polskuju j biełaruskuju drukarniu. Naładzili jaje Prystar i Sławak, a Perlicha była jaje kiraŭničkaj. Drukarnia isnavała da 1904 h. U kancy 1904 h. carskaja palicyja vykryła hetuju drukarniu, a Perlicha była aryštavana j paddana ciažkim mukam".

Ahułam, Teresa Perlicha mnoha pracavała dla raźvićcia sacyjalistyčnaha ruchu j zdabyła sabie vialikija zasłuhi j pašanu.

*Z pryčyn techńienych, a tak-ža j z uvahi na letnija kanikuły „Šlach Moładzi" ŭ m-cy lipni sioleta vyjdzie adzin raz dnia 15-ha.*

## Usiačyna

**Iznoŭ katastrofy.** Jašče śviet nia ŭśpieŭ zabycca ab vialikich katastrofach amerykanskaje i anhlijskaje padvodnych łodak, jak 15. VI bliskavicaj pralacieła vieska ab tym, što kala bierahoŭ Indakitaju zatanuła francuskaja padvodnaja łodka „Phoenix", u jakoj było 4 aficeraŭ i 67 matrosaŭ—usie jany razam z łodkaj zahinuli. U hety samy dzień u Niamieččynie zdaryłasia vialikaja katastrofa na čyhuncy, u časie katoraje 13 pasažyraŭ zhinuła i 20 raniena. 7. VI zdaryłasia katastrofa na čyhuncy ŭ Polščy na stancyi Pruškov. žhinuła ŭ joj 6 asob i šmat raniena. U Indyi zdaryŭsia vybuch porachu ŭ parachoŭni. Zhinuła 30 asob i 50 raniena.

**Bura, hrad, navalnicy j piaruny.** U miesiacy červieni sioleta naviedali naš kraj bury, hrad, navalnicy i piaruny. Tak napr. 23. VI nad Słabodzkaj vołaściaj, Brasłaŭskaha pav. praniasłaśia strašnaja bura z hradam, jakaja źnistožyła ŭ 70 pracentach zasieŭ. Hrad prajšoŭ takže ŭ Słonimskim pav. 25. VI vializarnaja bura prajšła nad Vilniaj. Złamała jana mnoha dreŭ, raskidała niekalki budynkaŭ, a piarun zabiŭ St. Zingieła, katory słuchaŭ radyja. U lesie kala Vilni złamanaje buraj dreva zabiła Adolfa Matuseviča, jaki chavaŭsia pad dreva ad daždžu, a jaho žonku tojež dreva mocna pakalečyła. Strataŭ ad hetaje bury ŭ Vilni naličajuć na niekalki sot tysiačaŭ złotych. Ahułam, piaruny šmat sioleta ŭ našym krai zabili ludziej i narabili pažaraŭ i spustašeńnia.

**Pracavitaść pčały.** Vučonyja śćvierdzili, što pčała musić vyssać sok z 7,500,000 kvietak, kab nažbirać poŭ kilo miodu. Kab sabrać-ža heny sok, pčała musić pralacieć takuju doŭhuju darohu, linijaj jakoj možna abkružyć try razy ziamielny šar (kulu).

**Upłyvy kamunistaŭ siarod francuskaj moładzi źmianšajuca.** Hazety pišuć, što ŭ 1935 h. u Francyi sajuzy kamunistyčnaje moładzi naličali 120 tysiač maładych Francuzaŭ, u 1936 h. tolki 87 tysiač, a sioleta siarod francuskaje moładzi jošć tolki 54 tysiačy kamunistaŭ.

**100-hodździe rovera.** Sioleta minaje 100 hod ad času, kali ŭ Anhlii pajavilisia pieršyja rovary (vielasypedy.) Pieršy rovar zrabiŭ małady Karol Kirk Patrik Mek-Milan. Ciapier, jak bačym, i ŭ nas na vioscy rovary vielmi raspaŭsiudžany.

**Dzieci kryčać macniej ad lvoŭ.** Njujorski instytut daśledu siły hołasu ŭ ludziej, źviarat i roznych instrumentaŭ, śćvierdziŭ, što kryk novanarodžanaha dziciaci jość hałaśniejšy ad lvinaha. U abličańni na adzinki siły hołasu, h. zv. „tony" kryk dziciaci mierycca 98 tonami, tady kali leŭ ravie z siłaju tolki 96 tonami.

**Staradaŭny sierp.** Na dnie raki Sonny ŭ Francyi znajšli sierp zrobleny z bronzu. Vučonyja dapuščajuć, što sierp hety pachodzić z prad 2000 hod pierad našaj eraj.




**J. Čornamu:** Piśmo j matarjały atrymali. Budziem vykarystyvać. Knižku ab fototechnicy možacie kupić u tych kramach, dzie pradajucca fotahrafičnyja aparaty.

**J. Čarn—mu ŭ Harodnikach:** Piśmo j mataryjały atrymali, u mieru mahčymaści budziem drukavać. Skarhu na poštu ŭ Vašaj miascovaści padamo. Za stojkaść čeść vam i słava!

**Г. Новік:** Вершы й мілае Вашае пісьмо атрымалі. Дзякуем. Вершы ў меру магчымасьці будзем друкаваць. Студэнткі пасылку Вашу атрымалі. Прывітаньне!

**П. З.:** Артыкул, як бачыце, друкуем і просім пісаць часьцей. Прывітаньне!

**Я. Брл.:** Вершы атрымалі й ў меру магчымасьці будзем друкаваць. — Шлём Вам найлепшыя пажаданьні ў новыя жыцьцёвыя абставіны.

**М. Вольнаму:** Усё атрымалі. Дзякуем. Вершы й жыцьцяпіс П. Сокала просім прысланць. Абяцанае хутка вышлем. Прывітаньне!

**Ул. Гарт.:** Матар'ялы атрымалі, у меру магчымасьці будзем выкарыстываць. Вершы слабыя, але ўжо лепшыя, чымся калісь былі.

**Дзям-цы:** Карэспандэнцыі атрымалі, выкарыстаем і просім пісаць часьцей.

**К. Грэбяню:** Грошы атрымалі дзякуем. „Шл. Мол." высылаем. „Летапіс" праз некалькі месяцаў ня выходзіў, але хутка мае выйсьці.

„Шлях Моладзі" друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Wydawca: „Bielpres". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.